# СЯБРУКІ ПА НАМАГАНЬНЁХ

__*ВАЛЕР ПРЫЧЫНЕЦ*__

***Шчасьце***

*А шчасьце валілася зь неба*

*А я ўсё саромеўся яго падняць.*

*- Чужое нельга браць, -*

*Настаўляла маці. Трэба*

*Каб сам здабыў…*

*Усе бралі хто колькі мог*

*Адзін я застаўся*

*З мазалямі на руках*

*І з раздушаным сэрцам.*

## ***Гематаген***

*Гематаген!*

*Я цябе так люблю!*

*І пляваць што ты*

*Зроблены з*

*Пунсовай*

*Ці*

*Белай*

*Не істотна*

*Крыві…*

***Red***



*Чырванею заўсёды*

*Калі палю*

*Калі адказваю*

*Калі размаўляю*

*Калі перакульваю*

*Куфаль піва*

*Калі сорамна*

*Так*

*Заўсёды*

*Спачатку турбаваўся*

*Зараз не*

*Збялелым яшчэ*

*Набудуся*

*Ў труне.*



***

*Собскасць*

***

*“Састаўце сьпісак другаснага й лепшага,*

*А то занадта ўсё намешана…”*

***

*Ня ўтворачы бяз створачы*

***

*Завіруха калош,*

*Запароша мой кош…*



**Ўконьне**

Я нарадзіўся тут
І я паэт ня першы,
Мне блізкі родны кут,
На блага мае вершы…

**“Сасцанка”**

Быванія руськя
Франьцішка Скарыны
Чамось беларуськя
Надзей падарылы

Мажліва я прусьця

Дурненькі зусім

Мая Буларуся

Я беларусін

**“Приснилось”**

Плёвоми

Попалами

Пусть Порою Парами

Подчеркну

Подправами

**Люду**

Вам прысьвячаю я, родныя людзі
Гэтыя слоўцы, радочкі свае.
Хай на шляху вашым хораша будзе,
Хай вам нічога жыцьця ня псуе.

Гэтыя вершы хай сэрцайка грэюць,
Бо ў йіх я душу і шчырасьць паклаў.
Хтосьці з вас скажа што стыль састарэлы,
Ўсё ж ткі ў мінулым паболей сьвятла.

Доўга спрачацца ды нават і біцца
Можна аб тым як патрэбна пісаць,
Я ж маю думку, што той хто баіцца
Той і ня зможа сам праўды казаць.

Лепшае долі, здароў’я ды шчасьця
Я як магу вам хачу пажадаць.
Розум цьвярозы да ўсякага майце
І не страшыцяся больш працаваць.

## Жыві далей…

Жыві далей,
Хоць тысячу праблем
Ты маеш зараз за сьпіной.
Жыві далей!
Усё О’Кэй!
Працягвай сябра йсьці у бой!

Улетку краскі,

Увосень лісьце,

Узімку ў трасцы,

Увесну выйсьце.

Рабі удалы

Ўперад крок –

Удача прыйдзе

На парог!

**Калі ў роспачы**

Вось табе стала у стоме вядома:

Сьцежкай ты крочыш да шчасьця чужою,

Думкі твае ня ў суседстве нікому,

Сум авалодаў душою.

Сосны ўсё роўна у неба імкнуцца,
Хоць бура носіць іх, долу згінае.
Парасткам траўцы пад сілу прачнуцца
Нават дзе штосьць замінае…

Ўчуй жа сябе – тое ўсё пераверне.
Мабыць ты здольнасьці к іншаму маеш?
Справу жыцьця ты натрапіш, павер мне,
Толькі як гэтае сьцяміш.

Моцнымі крокамі рухайся ўперад,
Мэтаў сваіх дамагайся упарта,
Будзь летуценьнікам велькіх памераў,
Веру ня страчвай на заўтра!

**Толькі ты не заганяйся…**

Чарговы дзень падорыць мне адчай,
Але чаму? Нічога кепскага ж не адбылося…
Быць можа крыўдна зараз, выбачай,
Калі заплачу, глупствы мовячы, ў парадку зносін.

Напомніш мне што можна стаць другім,
А словы гэтыя чамусь маю душу зьняважаць.
Ды адкажу: стаміўся быць адным,
Цяпло шукаючы паўсюль, усюды столькі блажы,

Што проста дыхаць вольна не магу
І, шчыра кажучы, мне хочацца сысьці, памерці,
Пакінуць гэты сьвет, пайсьці ў смугу,
Суцішыць сэрца, я ня ведаю куды мне дзецца!

Дык што да гэтага так давяло?

Стаміўся можа? Ў нейкую дзяўчыну закахаўся?

Паслухай, прыйдзе сонейка цяпло,

Міне пахмурнасьць тая, толькі ты не заганяйся.

## Назіраньні

Здавён няма ужо вакол

Тут звагі да сапраўдных ваякоў,

Затое многа ходзяць панямі і панічамі.

Гляджу ўвесь час на сваякоў,

Сяброў ды разнастайных мінакоў,

Народ з-за гэтага жыве з патухлымі вачамі.

Хто цень на край увесь наш напусьціў,
Што горы да зямлі заўсёды гнуцца
Ды іншым не даюць у небасхіл
Узьняцца кіраваць далей, прачнуцца?

У заняпадзе нацыі бядзе,
Ня зараз, дык праз нейкі час дакладна,
Той будзе вінаваты, хто спадзе,
На Бацькаўшчыну напляваўшы здрадна

Няхай аднойчы едучы ў мэтро,
Пачуўшы зноўку абвяшчэньне станцый,
Ты сьцяміш тое й запульсуе кроў,
Наноў заставіўшы ў сабе капацца

Навошта мы існуем на зямлі?
Зьдзяйсьненьні нашы насамрэч патрэбны?
Нашчадкі нас захочуць пахваліць?
Старых ці ссохнуць радаводаў дрэвы?

**Больш паэт не абаронца…**

Зноўку вясна у Менск завітала,
Ветла стрэла люд аселы,
Лёсам здаўна што ужо закружлялы
На чужацкай каруселі.

Добра жыве ён, моцна кахае,
Зьмены йму наўрад патрэбны.
Сам ліхадзея стрывае, спаткае
Трэба сіла – дасьць у рэбры.

Думка прыходзіць: а ты тут навошта?

Больш паэт ж не абаронца…

Словы любыя вырашаць грошы,

Дзе іх многа, там і сонца.

**Паэтам**

Вы не павінны мірыцца з каханьнем

Што утвараецца зьменай абліччаў.

Вам быць патрэбна заўсёды ў змаганьні

З модным ґлямурам, што ганьбіць наш звычай

Птушкаю вольнаю лётаць, няйначай,

Зрок мець найвостры, што зьвязаны з сэрцам

Быць актуальнымі, не, дык няўдача,

Струнка душэўная ўміг надарвецца

Многа ня значыць патрэбна камусьці,
Ўсім зразумела і прафэсійна.
Трэба вучыцца, існці да навуцы,
Моваў больш ведаць і ўсё не насільна

Праца паэзія, плюс яшчэ талент,
Верце ў яго – тады ён і прыбудзе.
Розум з сумленьнем усякаму далі.
Біць проста так не патрэбна у грудзі.

**Бацькі**

У абставінах любых
Трэба паважаць бацькоў.
Маці колісь удваіх
З Бацькам паяднали кроў

І прыйшоў на сьвет жы ты,
Зорка новая ўзыйшла,
Так што трэба ім заўжды
Дзякаваць старацца шмат.

Сваркі бойкі зноўку, хай –
Глупствы месьцяцца ва ўсіх.
Ўсё ж вытокі ня губляй –
Гэта грэх, дабро нясі.

Дрэва роду ёсьць адно –
Сук ягоны не ламай.
Помні ісьцінаў сьвятло
І наўвеце іх трымай.

**Спыч у Турэччыне**

Турэччына улетку,
Гатэль зь бясконцымі ласункамі,
Эґэйскае ўзьбярэжжа.
Што можа лепей быць для беларускага
хлапца
Ці да якой належыць ён сям’і?
Тут з дрэў сьвісаюць кветкі,
Брыз лісьце пальм калыша гнуткае…
Інакш у нашых межах,
Бо дожджык крапае ўсяго чатыры месяцы,
А сонца іншыя пануе дні.

Адсюль і нявыносная сьпякота грэе горы,
Якія крытыя аліўкамі
Ды шмат у касякі зьбіраецца у цёплым моры
істотаў што завуцца рыбкамі.

Ёсьць помнікі антычнай Грэцыі, эпохі Рыма.

Чуваць гісторыі тут водгульле…

Убачыўшы Эфэс стары пасьля візітаў Крыма,

Зьдзівіўся я: хто ж мы увогуле?

Нямала там чаму ня дрэнна ўсім нам павучыцца,

Напрыклад як спачынак робіцца.

Да іх з усіх краінаў сьвету едуць палячыцца,

Бо бачна і сьляпому розьніцца.

Да што і мовіць дыхае турэцкі люд свабодай,

Ў адрозьненьні ад нашай роспачы.

Ён не чакае часу лепшага да спраў, пагоды,

А йдзе далей, ня ўзяўшы помачы.

Па шчырасьці шкада мне стала Бацькаўшчыну нашу,
Калі убачыў больш прыгожае,
Але я веру што на ўсе пытаньні мы адкажам
Што пераможам мы нягожае

*Кушадасы*

**Краіна-суседка, чаму?**

Украіна,
Ты суседка маёю Краіны,
Адкажы, чаму мы на хвіліну
Бярэм толькі сваё ужываць?

Малайчына,
Можа нам не здаецца мажлівым
Хоць як ты усе жахі адкінуць,
Усьвядоміць сябе, адшукаць?

Немагчыма!

Нам прыкідвацца здовен чужымі!

Ўсё хавацца у бульбе глухімі!

І бясконца чагосьці чакаць!

**Нешта “ваеннае”…**

Радзіму любі! Шчырым будзь патрыётам!

Вось толькі адкрыта, ня трэба употай,

Хай нехта там лічыць што мы ідыёты,

Такія яны бо ў пустэчу упёртыя!

Ня слухай ты іх, імі дурань кіруе,

Ім розуму гэта даўмецца бракуе,

Сам верай жыві, а жыцьцё ты ўладкуеш,

Бо дзела ты ведаеш, праўду шануеш.

Гаворкі вядзі на сваёй роднай мове,
Ўжывай і тады калі рускае слова,
Ня стане вакол цябе дрэнных размоваў,
Усім толькі гонар, павага высновай.

Усё будзе добра! Іначай ня з намі!
Вырошчвай дзяцей, спрачайся з бацькамі.
Хай беды былі ды здароў'е забралі,
Каб скарбы заставіць, працуй і надалей!

Нам сонейка й месячык Сьцягам у небе,
Блакіт і ўсе зоркі Пагоняю гербам,
А дожджык, сябрук іх, заўжды па патрэбе
Напоіць зямлю і народзіцца Хлебам.

***

Кожны пакідае плямкі у жыцьці
На сваіх паперках – днях, што вельмі хутка йдуць.
Дык няхай жа колер іхні зіхаціць,
А ня шэрым, чорным будзе, йкі нясе бяду.

Скажаце вы мне што я ідэаліст.
Згодны, ня бывае так што хораша заўжды.
Добра, гляньце неяк на вясновы ліст,
Ён бляднее толькі як ідуць яго гады.

Тое самае і з чалавекам тым:
Ўсё ў яго псуецца з часам, робіцца ня так.
Гэта трэба сьцяміць мужна і затым
Падзяляць дзе ёсьць вясёлка, а дзе цемната.

**Паважайце справай беларускую культуру!**

Хто з вас быў нядаўнім часам
У музэі ці чытаў сваю літаратуру?
Вымаўляю ўсім наказам:
Паважайце справай беларускую культуру!

Дзе музыкі? Дзе ў нас барды?
Тыя дзе што вушы нашы мучаюць халтурай?
Вымаўляю ўсім загадам:
Паважайце справай беларускую культуру!

Дзе кіно ў нас, дзе тэатры?
Што ў нас ёсьць з карцін падобна
Трэцьякоўцы, Луўру?
Вымаўляю ўсім упарта:
Паважайце справай беларускую культуру!

***

Радуйся, сьмейся і гэта галоўнае,
Ня трэба быць спорчанай зь плесеньню сьліваю
Зь людам стасункі павінны быць роўныя,
А ня злыя, з чужым недаверам, хлусьлівыя.

Проста утворана, значыць і зь вернасьцю,
Паўсюль такі прынцып, узгадвай ты гэтае.
Шчырасьць адданая большаю вернецца,
Дык топай ты толькі сьцяжынкаю сьветлаю.

Жарты жыцейскія самыя лепшыя,
Навошта змагацца за вынагодніка?
Проста дзяліся пачуцьцямі, рэчамі,
Падумай, мажліва зьяўляесься шкоднікам?

Вартае ўсё не ўсягды ідэальнае
У крайнасьці кідацца гэта апошняе.
Не забывай жа каноны маральныя,
Сьвятыя высновы заўсёды найноўшыя.

## Годнасьць

Чалавек сапраўды чалавек,
Калі шчасьцем гарацць яго вочы.
А гараць яны там дзе адвек
Ён свабодна ў жыцьці сваім крочыць.

Дзе зь ім лічацца, разам ідуць,
Памагаюць, калі ёсьць патрэба.
Не, хаваючы праўду, ілгуць,
А гавораць празрыста як трэба

Мой народ мае звычку цярпець,
Йму спрадвечна прывілася мудрасьць,
Ня прывык ён трымацца ледзь-ледзь
І адказваць увагай на дурасьць.

Штостагодзьдзе трымае прыгнёт,
Бо палёг ён на мапе выгодна,
Мае мову, меў воляў палёт,
Яго мара ўвесь час быць свабодным.

**Для упэўненасьці…**

Лепей быць, чымся здавацца,
Хваляваньні ўсе ўцякуць!
Дрэняў лёс мінаць, зьнікацца,
Кепскі думкі адыйдуць…

Не пакінь жа свой народ!
Ён такі прыгожы... Гэткі…
Гавары “у поўны рот”
З вуснаў мовя кветкі!

**Палітыка**

Палітыка хай станецца палітыкам.
Сабе на душу грэх іх не бяры.
Сам не рабіся іхнім крытыкам.
Цікаўся ёй, ды помстай не дуры.

Натхняйся прыгажосьцю краю.
Ня рвіся ў бой на стрэлы чужакоў.
Вер, сам іх Божа абірае,
З радзільні, зь дзетчыных садкоў…

**Штоднёвасьць**

Так звычна крочыць час.
Усё ашчадна шчодра.
Нат’ кліч ня збочыць нас
На страчанае здоўна.

Чакаем перамен,
А чысьціня ў пальчатках.
Аднойчы краю тлен
Адзначыцца пячаткай.

Чало пайшло наўзбоч…
Яшчэ нічога дрэннага?
Чаруе ў сэрцах ноч!
Няма чаго страшэннага…

**Напрасілася… Рэзка…**

Мову нашу спачатку трэ’ знаць!
А потым верыць, служыць, пець.
Таму і ня ведаем што і сказаць,
А гэта нас завець.

Ўспомні Кандрат што сказаў!
Хо’ хвігу ў талерцы займець?
Вузель ты ўзяў завязаў
На Спадчыну ці на сьмерць?

Вучыцца, вучыцца й вучыцца,
А потым нічога ня мець.
Чуў? Гэтак і можа збыцца?
Пачнем, ці не, дурэць?

## Стрыечнаму брату

Каталік, ты душыў беларусаў?
Толькі сьмей нам казаць што ня так!
Ты зямлю нашу сьхідваў прымусам.
Крыж табе быў як велічны знак.

Йдзі падалей ад нашых зямель ты,
Што напраўду? Ідзі шлях' адсюль.
Праваслаўны народ наш, адметны
Бог ня Пан нам, а ўсюды, усюль.

## Шчыра пра мову

Мове роднай доўга жыць,
Да яе народ акрэп.
Мае ён піцьцё і хлеб,

Мае працу, як спачыць,
Мове роднай доўга жыць,
Да яе народ акрэп.

Не маўчыць хай беларус.
Навучайце вымаўляцца.
Не цурацца, не пужацца,
Прагу мець а не прымус
Навучайце вымаўляцца.
Не маўчыць хай беларус.

Хай яму свабодна крочыць,
Думаць, ведаць што “ты ёсьць”.
Што ні госьць ні ягамосьць,
Што было што будзе збочыць,
Хай яму свабодна крочыць,
Думаць, ведаць што “ты ёсьць”.

Паявіся ж той агмень,

Азары усіх наўкол.

Ад народжаных радкоў,

Не чакаць каб перамен,

Паявіся ж той агмень,

Азары усіх наўкол.

Каб без мовы ня было

Вельмі важнага ў жыцьці

Каб далей магла ісьці

Каб “жыла” “жыве” “жыло”

Каб без мовы ня было

Вельмі важнага ў жыцьці…

**Непаразуменьне**

Не разумець адно аднога –

Такі Зямлі усёю стан.

Існуе люд адной дарогай,
Але паміж самападман.

Народы дзелены на мовы,
На асаблівасьці краіны…
З’яднаны розумам жывёлы,
Ці можа толькі што – расьліны.

Жывем, прыняўшы з роду панцыр,
Сьхіляючыся на ўспаміны.
Такі наш лёс, такія танцы,
Знаходзім сэнс жыцьця ў хьвілінах…

## Разважаньне пра Бога

Ўсё толькі Божа вырашае,
Каго забіць, каго пакінуць у жывых,
Ад добрага ён дурасьць атрашае

Трымае пры Сябе сьвятых.

Маліцца нікага не прымушае,
“Дурніц” высокае матэры і трымацца,
Дапамагае, так, быць мо’ й адчаем
Хто хоча лепшым лецем стацца…

**І ў працяг…**

Леваруч Бес Іскушоньнік,
Праваруч Анёла Ахоўнік,
А галава – душа.
Ўспомні гэта ў палоньні,
Ўспомні перад сутоньнем,
Асьцеражыся граха.

Божанька, сын яго Езус,
А наўкол Сьвяты Дух.

Ты разгадай гэты “рэбус” –
Лёгенькім зробіцца ”пух”.

**Рулетка**

Дзе рулетка? –
Тата просіць,
Бы дапыткай
На дапросе.

Я ніяк не дапамог,
Бо знайсьці яе ня змог…

**Апраўданьне…**

Я ў палоне родных слоў,
Ў роднай мове захапленьне
Я знаходжу зноў і зноў –
І спачын і дум збавеньне.

Не сказаць што цьвёрда веру
Тому, што усім пішу.
Лішні раз пераправеру,
Шчырасьцць бы ключы нашу.

Чыстае сумленьне маю
За свае радкі і вершы.
За сьвятыя рэчы дбаю,
Хай у крытыцы ня першы.

Мне асадкі той хапае,
А друкарня хай друкуе,
Многа там каго бывае,
Хай патрэбнае ўладкуе.

Друкаваць, дык па-знаёмству,
Ці інакш даваць на вочы.
Творам нікагды ня помсьціў
І нікуль далёк ня бочыў.

У кнігарні не бяру я
Многа кніг каб не зчытацца
Граю у сваю гульню я,
Граю каб паэтам звацца.

**Верш пра маму…**

*Адаму Г.*

Мама, сама дарагое,
Маю ў сэрцы да цябе,
А усё вакол другое
Мне ня важна ўжо цяпер

Хібы што былі ў жыцьці
Хай забудуцца, завянуць
Ты вучыла як ісьці –
Не памеркне мая памяць.

Прабачай мяне за ўсё,
Хоць мне зараз так балюча,
Хай імя жыве тваё,
Хай сьвяціцца йно бліскуча…

## Сьвяча

Сьвяча гарыць,
Дурное гоніць.
Каб не дурыць,
Каб толькі помніць.

Свае грахі,
Сваю дурніцу,
Усім плахім
Зь ёй падзяліцца.

Гары, гары, свяча, гары,
Ты лепей чымся ліхтары…

## Ёдкрантэ

Гоніць вадзічка дробныя хвалі,
Пеннае лётаньне гладзіць пясок,
Што пад нагамі хрустам сьпявае
Зробіш на ім як ты крок

Сіняю зеляньню мовіць яно
Ён жа сівы і пакорна ляжыць
Сонейка кідае ўсюль прамянё
Сьцежак дзе лес віражы…

## Скарб

Ад мінага, старэй старога,
Мне скарб застаўся дарагі,
Камусьці штось, камусь нічога,
А мне бліжэйшы па крыві.

Пачую – стане сьпевам птушкі,
Цнатлівай кветкай да вясны,
Ці то ў размове, ці ў мянушцы,
Ці з калыханкаю на сны.

Заплюшчу вочы – його я чую,
Баюся каб ня збыцца словам,
Ды як банальна не скажу я:
Ён Беларусі корань – мова…

**Футбольная “песьня” …**

Калі Зямля футбольны мяч,
Наш край тады як пяцікутнік.
Лёс – на газоне ударач
Жыцьцё – гульня, вароты – вынік.

І ўкожны момант з’ява – гол, –
Этапы станаўленьня краю,
Ў Зямлі бывае і пракол,
Сам Брамнік ловіць, прапускае…

**Футбольны “верш”…**

Што пісаць мне пра футбол?
Ўвогуль да нічога.
Там “вайна” адна наўкол,
Забыцьцё старога.

Дай, Фартуна, аднавіць
Правілы старыя.
Сьвету цэламу прывіць
Перавагу мрыя…

**Пісантам…**

Ну нічога ня будзе, паверце,
Калі брудна стасоўваць словы.
Калі з лаянкай, хочаш памерці,
Калі пішаш і пішаш нанова.

Радкі крэсьліш і хочаш каб болей
Было гібласьці, кепскага стану.
Не Паэзыя гэта, а роля
Для Паэзіі “чорнага  Д’яблу”.



***

*Н.К.*

Ў сэрцы ўздымалася сьвежая краска,
Як заглядацца пачаў я ў твой бок.
Цьвісьці каханьнем дзівосным зьнянацку
Ўзяўся яе бадылёк.

Стаў я цягнуцца ў нябесныя высі
Каб да тваёй дакрануцца расы.
Рос вінаградам, лазою завіўся,
Нібы твае валасы.

Думаю зараз: табе ці патрэбны?
Схільны да думкі - напэўна што не,
Бо не займеў я ні золата й срэбра,
Бо я дурнога дурней.

Хай дажывае свой век тая кветка,
С часам пачуцьці у попел сыйдуць.
Стрэну цябе як ты будзеш кабетай,
Гэта ты зможаш пачуць.

**У Аляксандраўскім сквэры…**

Хоць столькі бруду рознага і недакуркаў,
З душою ў раньнюю вясну ўбрыду,
Там дзе нядаўна панавалі холаду вятры.
І тут каля старых дамоў цэнтральных вулкаў,
Сабе я сесьці месцайка знайду,
Убачу, побач горак сьнегу, раўчукі вады,
Зь іх хвалісты блакіт напрошваецца у сябры.

Праменьні парыжэлага сьвяціла,
Што дрэвы голыя азалацілі,
Згасаюць на бялюткіх сьценах,
Сьцішаюць пульс у маіх венах.

Чутно як гарлапаняць крумкачы,
Па плітцы люд мінае помнікі ды лаўкі,
Дзе, гледзячы на іх ці ўдалячынь,
Раблю асадкаю ў нататніку папраўкі.

Падмерзлы ўжо і не магу дазнацца,
Што у душы бытуе сяньня:
Ці тое крыўда мкне мяне злавацца,
Ці тое паўстае каханьне…

**Пад Магілёвам…**

Стаміўшыся ад шумнае сталіцы
Пад Магілёвам апынуся ў карагодзе
Прыроды дзіўнай нашай, што ня сьніцца,
І стану сам з сабой у неймавернай згодзе.

Там лецішча стаіць маёй бабулі,
Якое пекна даглядаюць цёця й дзядзя
Ды стане добра так чамусьці, ўтульна
Ад простых словаў іхніх, рэчаў даўніх
зьзяньня.

Ля возера палёг лясок старэнькі,
У ім як раньш свае адбіткі разглядае,
Пазнаўшы скажа: помніш ты маленькім
На “Бусьліку” катаўся? Весну нагадае.

Ўсё тая ж фарба на дамах суседскіх,
Ў кагосьці зь іх ужо гарод у пустазельлі.
Здаецца дзеці ўсе сыйшлі да Менску,
А помню як агульныя хвіліны мелі.

Традыцыі і мову забываем,
Бо горад і праґрэс трымае у палоне.
Давайце ва ўспамінах пабываем
Ды кожная наведаем былыя ўлоньні.

**Сонейка**

Золатам зь неба зьзяе талерка,
Піша ўсім сьпёкі радкі.
З брамы аблокаў – бяліла заліўкаў,
Промняў пускае слупкі.

Дзеля ня толькі у ценю схавацца,

Выпіць халоднай вады,

А каб няспынна ў жыцьці разьвівацца,

Ўперад ісьці, дагары.

**Мара пастуха…**

Звон, ці не? – каля вакна ў маім пакоі

Лямпа патаемна надае на слых?

Ці быць можа так зазвоняць дзесь у полі

Конікі, калі я буду не ў спакоі,

Дзе з каханаю стаюся удваіх?

Ў той час мроі ажывуць, займее сэрца дзіўны голас,

Зь ёй захочацца застацца назаўсёды там,

Паяднацца з зорнымі нябёсамі уголас,

Ўзяць пацерабіць жытнёвы колас

Ды пакінуць нахіляцца ўсім вятрам.

Ноччу месяц нам асьветліць сьцежкі,
Што засланыя усе у пыльных дыванох,
На якіх каменьчыкі бы як гарэшкі,
Дзе штодзённа блікі робяць перабежкі,
Плыўна працякаюць па краёх.

Зранку запяюць чароўна птушкі,
На зямлі мы знойдзем іх сьляды.
Сеўшы побач, як зручней наставім вушкі,
Каб паслухаць іхнюю дрындушку,
І ўсьміхацца будзем як заўжды.

## Залесьсе

*Іванову Аркадзю Міхайлавічу*

На той бераг абрывісты Віліі
Прывядзе лазаплёт мяне, ў люстры вады

Я убачу нябёсы маўклівыя,
Што вятрыскі хвалююць заўжды.

Тут рыбінкі ўсё дно ужо зьведалі
І ўсплываючы ранкам малююць кругі.
Кожны ранак пні вільгацьцю сьнедаюць,
Дажываюць свой век ці другі.

Закувае зязюля адрывіста,
Качак воплескаў крылаў народзіцца гук,
Шыі лебедзі гордыя выставяць
І мы станемся лішнімі тут.

Недалёка памесьце Агінскага.
Мэмуары свае тут пачаў ён складаць,
Ўзяўшы дзёньнікі ўсе зь перапіскаю,
А ў Флярэнцыі змог перадаць.

Ды папрок той узбудзецца ў сэрцайку:
– Пан Аркадзь, вось бы любая побач была
– Дык чаго не пазваў? Гэта месцайка
Дзе б ты зьнічак ёй кошык спаймаў…

**Ноч ва Ўруччы**

Квітнее красавік і ня злічыць галін,
Якіх узьняўся водар смачны позна.
Маўклівы лес, што за вакном заснуў маім
Ужо прывык да гарадскіх пагрозаў.

Зноў змрок, уверсе зоркі зь месяцам вісяць
Апусташаюць прочкі дур у думках.
На іх, калі ў адчаі, добра пазіраць,
Шукаць ад мітусеньня паратунку.

Уручча ўжо заціхла, шэрыя дамы,
Падсьветленыя толькі ліхтарамі,
Стаяць шырокія набітыя людзьмі,
Наўрад ці йкія штосьпераўтвараюць.

Раптоўны гоман моцнага таварняка,
Што побач рэжа сьвежае паветра,
Жаданьне ўзбудзіць стаць абліччам жаўрука,
Пець песьні ўранку пад парывы ветра.

Ішлі і йдуць дзівосныя жыцьця гады…
Люблю ўноч больш я гэту кропку Менску.
Ды хочацца з каханаю, падчас хады,
Сьвітанак стрэць, успомніць зноў маленства.

**За здаровы лад жыцьця…**

У маім жыцьці адбыўся важны цуд –
Меней есьці ўзяўся, перастаў фаст-фуд.
Піва і спіртное скончыў піць удоваль,
Бо дурная справа – я зрабіў выснову.
Мэтад вынайшаў як перастаць паліць,
Кінуў – стала лепей дыхаць да і жыць.

Маю мэту зьлёгку абрабіць характар,
Так як кажуць месцамі не адыкватны.

Фізкультура, кнігі, трынажоры,
Плаваньне – здароў’е падыму…
Добра ўсё ідзе, але
Смутак паўстае ў мяне
І пытаньне як заўжды у
Безнадзейнасьці паставіў я – чаму?

Доўга ўсюль блукаўшы высьвятляў адказ,
Так шукаў што ўсё ж, падаўся на паказ:
Засталося дрэнь прыбраць у галаве
Ды трымацца гэтак проста для сябе

**Джын-ліхтарык**

Падае сьнег на мой парог,
Болей відаць бляск сьняжынак
Ля ліхтара, што ноччу змог
Быць, хоць мароз, сьветлым джынам.

Добрым, які праменьні зноў
Кідае ў сьвет што ёсьць моцы,
Не дапушчае лішніх слоў,
Робіць усім справу сонца.

Слаўнае сьвята Новы Год,
Сыпяцца ўсюль віншаваньні,
Дзеці закружаць карагод,
Зьнікнуць на міг спрэчкі, званьні.

Дзень нараджэньня шчэ раз мой
Я адзначаць стану дома.
Будзе зь сябрамі шмат размоў,
Пойдзем гуляць аж да стомы.

Хай усялякі б меў жыцьцё
Сьветлае, дзе ўсё ты можаш
Грошы былі ды ў забыцьцё
З думак сыйшоў боль варожы.

**Глянь на неба…**

Глянь на неба, што моўча пяе,
Моўча кліча ў абдымкі свае,
Асабліва у цёплыя дні,
Там дзесь сонца хавае вагні.

Там зьяўляецца зьніч нечакана,
Утварае сузор’і ў спатканьні
З морам зорак, што дробна мігцяць,
Як блакіту ужо ня відаць.

Пах кастра ці кастрыцы ў паветры?
Не бярэ з нас грашовых манэтаў
За сваю непаўторную моц,
Яе дорыць бясконца ноч.

Не палохае ветрык трывогай,
Гоніць хмару паціху дарогай,
Дзе дзівосы шматлікія ёсьць,
Каб усім падарыць прыгажосьць…

## Дзеці са зьмеямі…

Вунь дзеці запускаюць зьмеяў:
Адно дзяўчо ружовы мае,
Другая – сьветла-жоўты,
Чакаюць на гары павеваў,
Каб паказаць як лёгка ў траўні
Ўзьняць іх на палёты.

Прыемна бацька кіраўніком
Вялікай птушкі яркага,
Кіслотнага адценьня,
Якая ўсім сваім нутром
Жадае найхутчэйшага
Ад цягі вызваленьня.

**На Высь…**

Белыя горкі прыгожых аблокаў…
Бачны нам толькі іх ніз…
Птушкі лятуць і лунаюць высока,
Сесьці жадаюць на высь

Каб адпачыла чырвоная кроў
Сэрцайкаў бойкіх заўжды,
Каб жартаваць, пасьмяяцца наноў
З той мітусьлівай Зямлі…

Дзе яны вырасьлі, дзе гадаваліся
Маці й Татам між траваў гаючых…
Дзе сустракаліся зь едкай нянавісьцю,
Зайздрасьць пазналі ліпучую…

Ім не патрэбна зьнявагі цярпець
Могуць і хочуць усім
Несьці дабро і мажлівасьць квітнець,
Толькі тут іх ня чуюць зусім…

Хопіць! Зьлятайце з сваёй Беларусі!
Вершнік пакажа дарогу…
Можа вас прышласьць вярнуцца прымусіць?
Прышласьць, як шанец Народу?

**Месяц, на дзіва…**

Супрацівіцца чорнай цямноце
Тонкі месяц – ліхтар уначы.
Сам зьяўляецца ў небе дзе хоча,
Каб за зоркамі пільна сачыць.

Ён іх беліць сівым серабром,
А уніз проста так не глядзіць:
Па-на хмарах бразґоча сьвятлом,
Быцца чыстаткім срэбрам зьвініць…

Можа нам хто ў прагноцьці на грошы
Робіць зманы, бязглуздныя рэчы.
Хто са шляху сумленьня ўжо збочыў,
І гібее ў духоўнай пустэчы…

Нам, хто мае ўсяго што патрэбу,
Хоць як небудзь пабыць на плаву,
Месяц срэбрам пазвоньвае зь неба,
На ўзьняцьцё упыроў галаву.

## **Цалунак**

Пацалаваў яе пад вечар
Ня мовя лішніх слоў.
Я сьцяміў: існа прастарэчча:
Спытаць – усё наноў.

## **Вечны невуч**

*Н.К.*

Навучы мяне цалунку,
Я у гэтым толькі хлопчык.
Аднаюбны я гатунку,
Змусі сорам зьнікнуць, скрочыць.

Штось рашучасьць заніжае
Прост наяве ўзяць прызнацца.
Мову рускую не знаю.
Вершам лепш чамусь маўляцца.

**Родным…**

Вышел заец
На догонки
Шубу сбросить
Власть травам…

Белый палец
Серым волком
Зиму носит
По снегам…

Сань наглец
Слюнявым соком
Воды просит
Где-то льдам…

Только слёзец

Самородком

Ель вареньит

Пюрогам…

**Литара «ё»**

“Я” дружыць са “ё”

Я думаў што “кон”ь”

Аднак сярод канёў

Я “трон”ь”

“Я” дружыць з “ё”

Калі ж прыйдзе кон

Я свой сярод канёў

Я трон.

**Па гарбаце…**

Цукарок, цукарок,
Каб ты казкаю жыў.
А не тое гурок,
Перасоліць нажы.

**Любоўнае…**

Н**, ты мне настолькі даспадобы…
Баюся я цябе абняць
Быць можа я паэт цяпер “народны”
Мне цяжка пра цябе казаць.

Намілаваўся досыць я табою
Лунаў я дзесьці ды астыў,
Хачу й хацеў я вернаю хадою
Прайсьці жыцьцё з табой ды спын.

Клянуся шчырасьцю сваёй
Ды сэрцам што ня ўмее лгаць,
Я твой, і буду заўжды твой
Знак шчасьця нам не мінаваць.

**Спачывай…**

Адпачывай, будзь ласка добра,
Прабач мяне за тое што ні побач.
Ты мне ўжо стала блізка, родна,
Засумаваў, паветра што як горач.

Мне цяжка табе добрае казаць,
Тым часам дрэннае таксама.
Любіць хачу цябе, а не кахаць,
Хачу дышаць тваімі валасамі.

Баюся нешта сапсаваць,
Баюся змовіць лішніх словаў.
Баюся казкай спразаваць,
Што прывядзе к пачуцьцяў злому.

**Нейкая “гігіена”**

Вып’ю зьверабойчык
Напішу вяршок.
Нікуды ня збочу –
Толькі “харашок”

Толькі чытачу,

Тодькі з дабрынёй,

Толькі уваччу,

Толькі зь цяплынёй…

## Шыпшына

Старая кветачка, шыпшына,

Адкуль ты родам, адкажы?

Каханьня пэўна ты вяшчыня,

На йкой расьцеш ты той мяжы?

Шыпоўніцай ты шчэ завешся,

Адкуль узьнікла ты, зь дзядоў?

Ты бахваляеш, ці сьмяешся?

Баяўся я тваіх шыпоў!

Ты вельмі колісься, надзейна,
Сабе ты моцна бараніш,
Якое маеш ты адзеньне?
Напэўна ты сьвятло таіш…

Ты бы народная здагадка,
Твая гісторыя ў вякох,
З табой ня зьлязгаеш у ладкі,
Крывя паявіцца ў рукох…

**Жаданьне**

Калі ласачка, дзяўчыначка,
Ты мяне ня пад’дзявай.
Шчыра ўсе мае учыначкі,
Сваім станікам сьвявай…

## **Я бачыў цябе зьблізу…**

Я бачыў цябе зьблізу…
Ты вельмі прыгожая такая.
Я б напэўна даваў візу
У тваю краіну губ, вачэй на спатканьне.

Увесь ва ўспамінах таго вечара
Калі давялося быць побач з табой
Хачу гэтаксама так, толькі са сьвечамі,
Луной і бясконца датыкацца да цябе рукой.

Я кахаю цябе як птушкі свой край
Падчас таяньня сьнягоў, вясны.
Я карцеў бы лунаць на вятрах,
Якія вядуць на твае ў пячэрах кастры.

Няхай гэта цягнецца доўга,
Я нават згодны на ўсё жыцьцё.
Буду піць ваду з твайго рога
І кідацца ў салодкае забыцьцё.

**Сустрэча зь сябрам…**

Прашпэкт бесперапынна шуміць,
А Сьвіслач ціха цячэ.
Я знайшоў сабе месца
У Купалаўскім сквэры
Між гэтымі дзьвума істотамі.
Сяджу на лаўцы,
Студзень ад мяне не хавае вачэй:
Сьнег, зьледзянелая плітка,
Холад не прапускаецца ботамі.

Чакаеш сустрэчу зь сябрам,

Сядзець засталося хвілін пятнадцаць,

І ў гэты момант разумееш

Што жыцьцё гэта файная і цікавая рэч,

Яно то не дае дыхаць тваім “жабрам”,

То дае больш танныя кошты на бэнзын

І ты дольш едзеш, дзе хочаш,

І можаш, як таксыст, руль часу ў руках мацаць.

Устаю, іду у бок Кастрычніцкай,

Дзіўлюся наколькі гэта цікавае і файнае месца,

Здаўна ўжо цёмна…

“А можа мне стрэнецца правід самаго Купалы?”

Пойдзем тады зь ім у барчык,

Пагамонім пра штось, вып’ем віскі з колай,

Ды праваняемся там тытунёвым смародам…

**Гнеў гародніка…**

Чаму пахмурныя, нябёсы?
Надвор’е ж абяцалі добрым…
Нашто дажджом спусьцілі косы
І паліваеце так шчодра?

Зачым мне вашая вада?
Даўно напіўся мой гарод!
Калі замнога, то дарма
І загніе расьліны плод!

Каб ён прапаў той тэлевізар!
Даюць такі прагноз каму?
Брахалі: “Будзе без капрызыў!”
Дык залівае ўкруг зямлю!..

**Па вёскі…**

Вёсачкі вы родныя,
Няжылыя ўжо,
Будзеця вы годныя,
Згубіцца ружжо,

Коцікі паявяцца,
Птушкі запяюць,
І капейка зьявіцца,
Хлеба напякуць.

Толькі калі ласачка,
Не хвалюйцеся.
Ўспомніця вы марачкі,
Ды шчэ раз умойцеся.

Мы насумаваліся,
Досыць тэй пары.
Дай жа пагайдаемся,
Пойдзем гаварыць…

Ўсё у нас наладжана,
Толькі не хапае,
Крышачку адважнага,
Вораг наступае.

Будзьма болей годнымі,
Будзьма гаварыць,
Будзьма больш разважнымі,
Досыць нас дурыць.

**Млын**

Млын… Маленьне просі, млын…
Руху лягу; руху тым;
Едзе ўсяка калесо,
Хай дачулася б усё.
Дзядзька там сабе малоціць,
Хлеб, муку на сьвет народзіць?

**Прырода**

“Як мне успрыняць прыроду?”
Задаваўся ты пытаньнем?
Што яна дае народу?
Йкой уяўна на ўспрыманьне?

Гэта самы важны чын,

Пранікаўся, альбо не, ёй?

І натхненьне і спачын

“Сабяру” альбо “пасею”?

**Вясны канчатак – летні напамін…**

Вясны канчатак – летні напамін

Зьнікае уначы, прыходзе халадок…

Той лес, які каля дарог – сьцяміў

Як спаць здавацца, бо даўно ўжо змрок…

Дзе ціш, там зоры, месяцы вясяць,

Зганяюць проччу дур у думках

І зрэдку просяць нагадаць

Калі патрэбна што у сумках

Каб людзі не хваліліся былым
Бо асаблівасьцяў жыцьця хапае
Не захапляліся дурным
Не давяраліся “адпадэм”

**Залішняя цікаўнасьць**

“Мы дызайнэры – аформім вашы рэчы,
Падарунак зробім пры сустрэчы…” –
Прачытаў я раптам у аб’яве…
Думаю… Ня трэба, ці – дарэчы?
Так альбо ня так яно наяве?

Узьнікаюць шафы як купэ, кватэры,
Навясныя столі ў інтэр’еры…
Бог! Радзіму мае дошка
Пра цікавыя шпалеры
Дык нажаль каштуюць завысока, ж!

Мастакі працягваюць прыгожа:
“І з прыемнасьцю паможам!” –
Нібы вымаўляе салавей!
Трэба ўдакладніцца ўсё ж?
Набіраю нумар тэй…

“Прывітаньне, мілая дзяўчына!
Зразумееця магчыма?”
“Паспрабую!” – прагучаў адказ…
(Сам напэўна больш маўклівы
Запытаўся неяк не у раз…)

Доўжыў доўга на успрыманьне:
“Вы, шаноўная, дызайнер?
Зробіця мне скарб?” –
Клаў належна намаганні:
“Вазу – па жаданьню мар?”

Гутарыць далей ня сталі… Што й думаць?
Каб ня чулі ў трубку палец сунуць?
Што казаць заўжды патрэбна мне,
Як камусьці вось тэлефаную?
Ці зьвярнуўся груба да яе?

Потым здолеў здагадацца я:
Як той певень – кураня
Задзяўбаў сваім нахабным прыставаньнем,
Так і зь ненаўмыснасьцю, дарма
Быў залішне тым цікаўным...

*2009*

**Мэтэарыт**

Я толькі што, курыўшы тытунь,
З кватэры выйдзя на балкон,

Убачыў, па-над лесам, пад блакітам,
Сьвячу што падае, агонь.

Ня выдумляю, ня хлушу,
Нажаль ня змог сфатаграфаць.
Я так спужаўся што пішу,
Ад жаху стаў я верш пісаць…

**Шашлык зь сябрамі…**

Добра канечне пакінуць Уручча,
Вырвацца часам на лес, на катэдж…
Дзе асабліва зьбяруцца у кучу
Побач з табой шмат сяброў, дзе паеш…

Той шашлычок пад цудоўнае піва
(Штосьці і іншае можа там быць…)
Усё ж ткі наўрадзь ці забаўна і шчыра
Вам паспрабую былое адкрыць

“Вася, сустрэнемся ля Кірмаша,
Так што бяжы, апранайся хутчэй!”
“Мяса набудзем ды морквы няшмат –
Стравы карэйскай займеем яшчэ!...”

(Ну і гэтаксама далей)

**Па-над лесам**

Па-над лесам, месяц ціхі
Вострых два шыпа раставіў,
Каб дурныя думкі сьціхлі,
Каб душою божа правіў.

Гэта пэўна ночкі шум,
Ветліва яго калыша.
Неба сіняе, як тлум,
Штось схавала дэсьці мышша.

Ўсё дурное адыйдзе,
Зьменіцца усё на роўнасьць.
Месяц спытне дзе ты, дзе?
І адказ пачуе – вольнасьць.

## Суботнік

Дух падымем мы ў Радзіме
Мэтадам найлепшым –
На суботнік ў магазіне
Мы гарэлку “счэшам”.

Пойдзем віламі грабсьці
І таптаці траўку –
Наш дзяржаўны ВВС
Хай пакажа лаўку:

Там дзе п’ем “Крышталь”,
Палім мы “Карону”
І трымаем сьцяг
Зь зеленьню чырвоны…

2009

**Мэлёдыя**

Нешта пачуў я, на горным адшыбе,
Што нам чужацкія песьні пяюць.
Хай гэта музыка ўвогуле згіне,
Хай нам да геніяў зробіцца пуць.

Нам бы мэлёдыю добрую ўспомніць,
А не пэрфомансы злому рабіць,
Ды “напісацца” ёй бы, так бы мовіць,
Каб загучала, пайшла зіхаціць.

**Бязсоньніца**

Ночка цёмна,
Чаму ж я ня сплю?
Не халодна ж,
Я ж моцна стаю.

Калі ласка
Дай вочы закрыць,
Будзя ласка,
Скажы што забыць.

Я сягоньні
Сьпякоты баяўся,
Дождж гамоніў,
Каб болей сьмяяўся.

Паляці,
Дождж а, зараз туды:
Дзе пуці,
Дзе пасохлі куты.

**Абярэг…**

Прозу пішы,
Брасай папіросу.
Толькі ў глушы
Адчуеш ты росы.

Траўкі камельчык

Ты, ўсё ж, берагі.

Будзя праменьчык,

Будуць лугі.

**Палявое**

Мяса злевы, хлебы справа

Пост адная наша справа,

Бо у жыце васількі,

Без кары усе пянькі.

Хай народзяцца яны,

Хай зьсіньнее ўся ральля.

Ёсьць плугі і бараны,

Ёсь надвор’е да рубля.

## **Пачатак дня…**

Акуляры як да твару,
Апрануў і чую мару.
Бачу сьціплыя абшары,
Залаты Зямлі ліхтарык.

Ў сон вазьмуся адыйду,
Зранку зголью бараду,
Змою старую бяду,
Аддамося ўсім труду.

## **Зварот…**

Калі, Улада, ў вас усё ня так,
Тады й ворагі народа у Краіне.
Калі бардак,
Сьвятое гіне.

Не дайце гэтым ворагам, чарцям

Сьвятыя месцы нашыя ўсе абпляваць.

Ўсяго жыцьця

Йм не дараваць.

**Дзядулі…**

Дзядзе Пецю,

Як жывеце?

Вам жадаць

Найлепшага,

Хоча сам

Палёвы квецік –

Мы такія…

Лепшыя.

Вы – савецкі чалавек,
Патрыёт бясконцы.

Атрымалі стольkі зьдзек –
Зараз сьвеціць сонца.

## **Дзеда, Бабка…**

Рускія цераз
Радное ў мінулым
Мы ўсе павінныя
Уваскрасіць.

Блізкае дзеду
Якога нагнулі,
Блізкае бабкам,
Кіх мучылі жыць.

**Сябруковасьць**

Сябруковасьць наша
Памагчы Расеі
А заходніх трашча
Каб наўзмолк паселі

Кашу елі б жыжай
Лыжак не прасілі
Жырнымі на лыжах
Рагаталі ў бельлі

Так што лепш увага
Чым сьмятана пысы
Мясам перавага
Ды бадзягай трысты

## Зробім прыньцерам кяфір

***

Як так можна,
насусоліць,
прыньцерам красоўкі?

***

Як так можна,
накіўбасіць,
прыньцерам машыньне?

Гэта, простку,
Сатанізм грахоўскі.

Не душа, а жываціньне.

## Загадкавы пянёк

На дарожцы,
Па нямножцы,
Мы прысядзем на пянёк.

Каб цудоўненька,
На ложку,
Сьніць раднОе. Далібог.

## Доўга

Пецярбожа ў Расеі
Доўга церпіць чужаніц.
Хочуць зьбіць нас на бязсільле,
Адарваць нас ад граніц.

Вас мы шэптам пераб’ем,
Ваша міміка напрасна.
Вас ня пусьцім да сябе,
“Ваша зорачка пагасла”.

**Пра грошы…**

Рынкі, рынкі,
Без упынку,
Падаюць, растуць…

Хтось схаваў
Рубель у скрынку,
Хтось псуе йму пуць…

Доляры, даляры
Еўрыкі – ярмо…
“Мы ўсе іх падарым
Дзеткам на пяро.”

## 3D

Вось надрукуйце дыназаўраў
На сваім вы прынтэры,
Будзе вам няхватка мараў,
Будзе вам і віктары…

## Матуля й малыш

Вунь матуля прывучае
Малыша таптаць зямлю.
Хай не жашыцца ручаю,
Хай не здасца на краю.

Хай сьмялей затапачыць,
Хай паможа яму сонца.
Сала ў кухні засkварчыць –
Будзе пьлявіцца ў сьляноце

**Пра жыцьцё**

Невядомая памылка
Гэта ўсё агульна жыцьце.
То ўсё добра ёсьць урыўкам,
То накоціць кепска быцьце.

То патрэбна ратаваньне,
То ратунеш сябе сам.
То уяўна хваляваньне,
То спакой падорыцца.

**БАДы**

Ґербалайф ня дасьць жыцьцё,
Ґербалайф псуе жыцьцё,
Як і захаду культура…

Хай мы б лепш у забыцьцё,
Цьвёрда й крэпка ў забыцьцё
Таталітарызм паснулі…

Цёмная сьвядомасьць наша,
Хай хоць неяк абудзіцца…
Ежа наша шчы да каша –
Потым зьявіцца й спадніца.

**“Заяч’я” ежа**

Агурок і сала
Його ня будзя мала
Нашаму народу
Назаўжды

Хай бы не гарчылі
Стравачкі старыя

Кожнаму куту

Насмокату…

**Пра комп…**

Во якія хлопаты!

“Памылка доступу”
На важных подступах

На гэтак званым маніторы

Мы ўсе як робаты

Жадаеш “хобатам”

Жадаеш проста ты

Зьмяніць адчай на кругазоры…

## Дума думца

Думаў думіну думец
Ды ён шмат увогуль думаў
Вось такі ён быў мудрэц
Там дзе проста ўсё і сумна

Ад таго яму было
Але як ён гэта сьцяміў
Ўсё на сьвеце ажыло
Зьніклі ўсе перажываньні

Ўсё настолькі добра ў сьвеце
Ўсё настолечкі выдатна
Што як гэта назавеце
Так яно і будзя статным

**Народцу**

Ох ты, Бог ты, Божа мой,
Што пасьмеў пісаць я зараз?
Пеў народу, дык жа пой,
Добрую даймо йму сталасьць.

Дай прасьцей яму зажыць
Супакоіцца даруй йму
Доўгіх, добрых дзён пражыць
Болей сталых і утульных.

**“Зеленя”**

Што знае гаспадыня
То й зможа заварыць

Гарбата як астыне

Яе пачну я піць

З славутае зямлі
Ад Крыта “зеленя”
Хай смагу уталіць
Паможа мне яна.

**Па радыётымацыцы**

Кола перадатчыкаў “Свабоды”
У вушы накіроўваюць хлусьню
Нажаль камусьці гэта даспадобы
Па мне дык роўнае нулю

Не чужаніцамі нам ганарыцца трэба
Ні землямі што месьцілі дзяды…

Яны жылі не баччу хлеба
А тут вось ты апраўджанай лухты.

**Прапаганда**

Прапаганда наша
Сьветлых месьціць роляў
Чужаніца ж кашу
Усё псуе нам сольлю

Блізкіх між народаў
Утварае спрэчкі –
Не дамо гародаў
Што стаяць на рэчках

Столькі мы цярпелі
Рознага ўсяго
Строілі, гарэлі
Мала ім таго

Знай, мацней за іх мы
Спраўныя ў нас справы
Крыкнеш да прыціхні
Лева да і права…

**Бацькам…**

Маці – бясконца багацьце…
Тата – у справах упарты…
Вы дзеля нас усіх шчасьце…
Вы дзеля кожнага статны…

Не адбылося чагось бы,
Любім мы вас, паважаем…
Любыя, кожныя прозьбы,
Вы дзеля нас адужалі…

Сэрцы прамовяць вам дзякуй…
Сэрцы адладзяць праблемы…
Кажам вам з самага малку –
Дзякуй жыцьцём вам і хлебам…

Крэпкага дужа здароў'я…

Вы нас, хай так, гадавалі…

Будзе працяжлівасьць роду…

Будзе працяг намаганьням…

Родныя, доўга жывіце…

Не пакідайцеся суму…

Дурнасьцям варта забыцца…

Любім, кахаем у думах…

**Сябру, Дзіме…**

З год дваццаткаю, Зьмітрок,

Зьвіншаваці Базылёк,

Хоча проста і прыемна,

Каб прыгожа й недарэмна.

Ты амаля бізнэсоўца,

Атрымаў ты ведаў слоўцы,

Грош ня проста зарабляй,

А магчымасьці трымай.

Падару ка мэдавуху,

Піва бонду і зьбітуху.

Хай усім людзям ліецца,

Пеніцца і аддаецца.

Што ня творыцца ў вачох,

Боль у кожнага ў грудзёх.

Ўсё здалееш перайначыць,

Штосьці больш, штось меней значыць…

## Максіму К.

З наступіўшым, дваццаць першым,
Днём народзінаў тваім,
Зьвіншаваці хоча вершам,
Сам Базыль, цябе, Максім.

Будзь, будзь ласка, сам здаровы,
І шчасьлівы, і зь сям’ёй
Та актор, твае ўсе ролі,
Хай бываюць “ах” і “ой”

Станіслаўскі у падмогу –
Многа кніг табе дару.
Хай адкрыюцца дарогі.
Хай усё ідзе ў гару!

Ўсё у нас і добра й дрэнна
І ў тэатры і ў краіне.
Хай да лепшага здарэньні,
Талент твой няхай ня гіне…



**Палярная Пагоня**

Паўстаў Вялікі Воз з Малым,
У ім Паўночнай зоркі Цьвік,
Палярны Сівер, зтуль Кілім,
Нясе да Нас Пагоні ўтрым
Дзе Здубавецьця панатык…

І калясніцу праз Вакно,
Убачыш унь, Сьвяты Ільля,
Паўстаў праявай Пяруна,
Там коні скочуць і сядло,
Пад ваяром і ёсьць шабля…

Калі нябесны ўлупіць гром
Маланка лясьне на Зямлю

І Коў пральецца каб пагас,
Спачатку ворага Пыл-Бляск,
Затым чужацкага Каню…

## Ружачка

*Н.К.*

Дзетачка галіначка,
Кусьціку які ў шыпах,
Цьвецік мае з блінчыкаў,
Мае тонкі пах…

Ружачкай завецца йна,
Увядаць ня думае…
Пчолкі ў садзе ля вакна
Цмокаюць яе…

Прыгажуня там расьце,
Ведаюць усе чмялі.
Путаюцца у хвасьце,
Спрэчкі завялі…

Вось уся гісторыя –
Пасадзілі каралі…
Вось і касмагонія –
Зорка на Зямлі.

**Сутоньне**

Сутоньне, сутоньне, сутоньне…
Дзявочага дрэва пара…
Мы міла з табой пагамонім
Каханьня віхляе зара.

Я стрэў цябе ранкам і раньне,
Бы дзіўнае полымя слоў,
Ідзе, як нікому не знаны,
Калісьці даўно дзняслоў…

**Плача тэлевізар…**

Плача тэлевізар,
Што старэнькі, “Гарызонт”.
Полем стаўся рыцар,
Небу, да высот.

Сам экран блакітны,
Назіральнік зор.
Вочы його забіты
Слёзьмі на простор.

Чуе сьвету далеч,
Хоча паказаць,

Глыбіня змагла леч
Цяжынёй на стаць.

Ён перажывае
Адлюстроўваць выш.
Гук прымач прымае
Ночы крэпкай ціш.

Скажа плязма казку,
Каб суцішыць плач.
Па яго адказу,
Словаў собскіх ткач

Ты у нас адзіны
Паказальнік туч
Супынісь хвіліну
Супакой уключ.

## Пра цяпер

Беларусь – парадокс наагул;
Мова, быт і жаданьні…
Да стала прынадлежнасьць, як стул,
Часам хтосьці сядае.

Сьпінка ўсяку сьпіну выгінае
Ды чатыры нагі.
Тры пацёртыя, вось залатая,
На ёй бляск дарагі.

Пошук грошай займае ўвесь час –
Кожны кожнаму доказ.
Як пачнецца гаворка пра нас,
Дык навязьлівы показ.

Што калі, да ніколі да змогі
Мець Дзяржавы выключнасьць,
Бо забыліся ўсе перамогі,
Маем толькі прысутнасьць.

**Любоў да дызайну…**

Праявы дызайну ня толькі выявы,
Праявы мастацтва не толькі малюнкі,
Напэўна працуе яна за даляры
Напэўна гультай ён і піша пісулькі

І марыць яна пра мастацкія сфэры,
І мроіць ён меней пра велькія грошы,
Кампутар каханьне адно у кватэры,
Ахвотна папросту быць вельмі прыгожай…

## Іншая “віртуальнасьць”

Пераапранайцеся у залатое пяцірадкоў’і!
Хай вашае лісьце перагнівае геасферы.
Я сам упрыгожу вершапісаньнямі падваконьні,
Усе нязвычайнасьці словаформамі на шпалерах.
(Вера…)

Мо вам недарэчна перамяняцца без каляровасьці?
А мажліва проста пераўвасобіцца пад трухлявасьць?
Скідаці жаўтоту не разумеючы неабходнасьці?
Ўзяць адключыцца, прыняць інакшую віртуальнасьць?
(Каханасьць…)

**Думка**

Пераадолець патрабаваньні непасільныя,
Перамагчы самога сябе, не паляніцца…
Гэта жыцьцё, якое папросту ад нас зьвільвае
Трэба сасьпець усяму прыйсьці і заявіцца…

**Калі нерашучы…**

Жахі цяперашнясьць шэпамі куюць,
А нараджаюцца ў мінасьці днях.
Самы галоўны хутчэй нерашучасьць,
Брацць калі гэта мажліва за жах.

Як пабароць хібу? – Брацць, вырашаць
Што да чаго, як вакол і ўнутры.
Збыць перашкоды ўсё ж нешта пытаць:
Цар падалёку, а Бог угары.

Дрэнна лічыць што выключна здаровым
Будзеш заўсёды ва ўсёму жыцьці…
Гэтак жа хворым, нішто не адновіш…
Выратаваньне бяз дзей не знайсьці.

Мкніся пазбыцца хваробы сваёй,
Мкніся дазнацца што так, што ня так
Цела як храм для душы ёсьць тваёй
Вера бяз дзеяў сапраўдных мяртва

**Пра павука**

Павуціньне павука
Восеньню жыло,
На вярбе, дзе два прутка,
Сонца берагло…

Зьнікнуў лютага халод,
Сьнег сыйшоў зь зямлі.
Пракапаў праходы крот
Недалёк ральлі…

Адыйшоў сьпявак ад сну,
Распачаў свой сьпеў,
Салавей прынёс вясну,
Песьняй акрапе…

Зноў спляцецца павуціньне
Ускапае крот гарод
Салавей сьпяе, прыціхне,
Весялей каб жыў народ

Зноў за справай павучок,

Ускапае крот зямлю,

Салавей сьпяе “цок-цок”,

Каб народ рабіў ральлю…

**Сабе, і такому ж па справе…**

Адпачывай, сваяк, паэта,

На потым кідай пісаніну,

Высока праца, гэта, мэта

Не можа дыхаць без спачыну,

Адданым трэба быць, а як жа,

Ды толькі лішнія нагібы,

Паболей сьпі, далоў узважваць,

Дзе дадаецца, гэтак ж, хібы,

Любі жыцьцё, сачы самога,
Закінь на момант вартасьць слова,
Калі забудзешся старога,
Сьвятло паявіцца нанова…

**Пра Алімпіяду**

Хто такія беларусы?
Як на лыжах – медалі!
Залатых пяцёра згустак,
Бронзу з рук узяць змаглі.

Старты браліся як вага,
Ўзьняўся гонар – сьцяг Дзяржавы…
Ў Сочы нам Алімпіяда
Прыпаднесла ў спорце славу,

Ды такую што не верым,

Што настолькі адбылося.

Апраўдаліся намеры!

Дзякуй вельмі ўсім спартоўцам!

**Цьмат у мове…**

Хай срамата,

Хай мове стрыжань,

На чыстань выказацца змог!

Мне хопіць гладак, казак – выжыў!

Ня дам зь яе украсьці рог!

Няхай брахлівы я да трэлі!

Няхай я зьнешне бы сьвіньня!

Я маю ўсё! Лясы згарэлі!

Знайду свой меч! Знайду каня!

Хто годны зваць мяне як трапку –
Таму пісун дзе б пятка быў…
Каб не вымаў маленькі з тапку,
Каб меўся каменем адным,

Каб зубы трэснулі ад шкляны!
Каб вусны бдзелі бачу воч!
Я так зачужню у чужану,
Што сербанеш цьма зуў наўзлоч…

**“Котка”**

Яна бы котка што гуляе
Ды уміляе ўсіх катоў,
Нябачна хвосьцікам віляе,
Не падпускае чужакоў.

Складаны колер мае шорсткі,
Сама сабе заўжды паненка,
І розум велічны, акторскі,
І вочы карыя, як грэнка,

Успыхвае ў мяне цікавасьць
Да ёй пэрыядамі, часам
Ды мілавацца маю слабасьць,
Калі бываю зь ёй сам-насам.

Вандруй мая ты слабіна,
Захочаш, да мяне зьвяртайся,
Я для цябе усё аддам,
Хоць і мітацца і зьмяняцца…

## Авялог, Стох і Гэна

Авялог зашпульціў у бярлог
Авяломны нястомлівы Стох,
Бо нашто яму мець у мазґох
Тэй гаршчок, што прышцёс, прыбярог
Шэры мох, сіні мох, белкі мох.

- Гэны Гена гуляў па грыбы,
Але ён пагубіў барады…” –
Гаварыў Стох, глытнуўшы вады,
Што скіпьціў Авялог заўсягды
З моху сіняга шэрага ды.

- “Гэткі Гэна мне белкага моху ліваў!” –
Стох маўленьне Вялоху даўжаў: -
“Я збаўдзеў і стагодзьдзе прасьпаў…

Во, як твойскую воду глытаў,
Тольк рыгаў і зьнямогшы рахнаў.”

“Шэры мох, сіні мох можла піць!
Ёлуп, белкі – атрута, скрыпьціць!
Бэлярусю ён хоцькі задзьбіць!”
Авялог стоху звонча вапіць: -
“Ты ж мог здораўскі ўзяць і загніць!..”

**Цукэрка**

Ай, халера яго ведае,
Што там ведае халерка!
Мо з табой з’ямо цукэрку,
Змушаную кэдамі,
Цалаваць зямельку?

Аблізьнём пяшчынкі,

Хай на густ абрыдла,

Поткі з наглым рыдлам

Хрусьнем да начынкі –

Там ё ўсім павідла!

Зубы чысьціць будзем

Ніцькай ці іголкай…

Стане кроў салодкай…

Ось цяпер мы людзі!

Вырасьлі зь дзіцёнкаў…

**Сьнежныя занесіны…**

Буран! Сьняжына! Во атака!

Ці вытрымае його прасьпект?

У самым цэнтры люд бы статак,

Схаваўся нехта у кафэ.

Машынам кепска… Трактары
Дапамагчы ужо ня могуць.
Увесну зімка у журы!
“Уралы” ў сьнезе нават тонуць…

Ды тэлебачаньне здымае,
Як сівер моцна уладарыць.
Чаго ў нас толькі не бывае…
Злуецца неба, сьценкі ставіць…

**Калямбур 1**

Лусты ежы – пьлён нажа.
Грошы – працы пьлён.
Нам наесьціся сьпярша,
Каб на тое ж ён.

## Калямбур 2

Сэнс пяшчоты ёсьць жыцьцё
Ёй жа – адзінота.
Нараджаем мы дзіцё,
А яно – істота

## Калямбур 3

Розум – розныя хваробы.
Хворы – мары ў дзеі.
Творчасьць – хвораму народу:
Ён яе ня дзеліць.

## Момант

Восеньскі горад,
Кавярня і столік,

Дзеўчына тлустая
П’е сваю каву,
Поруч трымае ружаў букэт.
Сочыць за нейкім,
У смарце гутарыць,
Я ж у пакоі шукаю клязэт.

Пэўна сама сабе
Кветак набыла
І, як вядома, чужое жыцьцё…
Ды не халодна,
Даўно не тужліва,
Проста яна – Беларусі дзіцё…

**Пра зіму**

Зімка, зімушка, зіма,
Дзе марозы? Халадэча?
Вось Каляды і няма
Вашай прыгажы дарэчнай…
Дбалі так цяпла,
Што ужо уйшла?
У Амэрыцы сьняжыны,
У Канадзе ледзяніны,
Сьфінкс зацерушыла,
Мы жа не ў спачыне…
Прыгае надвор’е –
Мацярык ці ўзмор’е…
Сьвет ідзе да згіну.
Люд туды і рыне…

## Навагодняе

- З Новым Годам вас, сябры!
Елачка сьвяточная
Хоча нешта падарыць!
Лямпачкі закрочылі!

Нешто вам туды паклаў
Дзед Марозец са Сьнягуркуй!
Пойдзем гэтае шукаць,
Там аднекуль падарункі!

Вось знайшоў Базыль канструктар,
Адшукала Наста ляльку.
Плачу я, бо сьцяміў хутка
Што адкуль пачуўшы татку.

А сястра бяз той хвіліны,
Цацку тут жа разабрала.
Пэўна там былі галіны,
Пэўна штосьці там схавана…

**Сябар і бульба…**

*Валеру Прычынцу*

Мы зь сябрам смажым нашу бульбу.
І чысьціў я яе таксама,
А вы ўсё шарыце па клюбам,
З’ядаеце шмат круасанаў.

Для шчасьця многа і ня трэба,
Хаця б паесьці простай ежы,
І без усякіх лустаў хлеба,
І малака у роце зьнежыць

**Ніне…**

Дзеўчына-малец
Парэзала палец

Ды ёй не балюча –
Заробак бліскучы.

Кружляе, віруе
У межах мастацтва.
Зьбяру я, зьбяру я
З шэдэўраў багацтва.

Праца па густу,
Начальнік бяз глупства.
Вось увесь верш,
На табе, з’еш…

**Магічнае**

Вось гуляе ў полі вецер,
З боку ў бок гуляе ён.

Ў чалавека на прыкмеце
Быць падобным на яго.

Дапамога йму патрэбна,
Валуном хацеў бы быць.
Добра што ён мае срэбра –
Змог суцішыцца хадзіць.

Так, заскочыў б невядома,
Заляцеў б за далягляд.
Не адчуў б сапраўднай стомы,
Стрэўся бы вішнёвы сад.

**Наша…**

+доля

+ніва

+слова

+моўча

## Штуршок

Дзе зьлятае Вера
Там зьлятае Бог
Пішацца халера
“Мовіцца” жыцьцё

Дзе прыходзе Вера
Там прыходзе Бог
Пішуцца шэдэўры
“Мінецца” жыцьцё

## Пра сябе

Паэт – паэзіі члец,
Сваёю, псыхасаматычнай.

Душы наўпрост сваёй галец,
Перш сьвету, што ўнутры, крытычны.

Часьцей жыцьцё ў яго ідзе
Па кругу, чымся па сьпіралі.
Ды плыць яму ў якой вадзе
Ўсявышні зь неба абірае.

Шыза ці муза дурыць галаву –
Ён піша; цяжка йму адрозьніць,
Лайно, намазанае на траву,
Ад глебы што сваё народзіць…

І ў гэтай хатняй мітусьні,
А хата у сталіцы сэрцы,
Ён мые боты ад трызьні,
На століку, рабочым месцы…

## Патрыятычны “акт”

Ганаруся сваёй Беларусьсю!
І краінамі зь йіншых бакоў!
Але ворагам зьнішчыць прымусам
Не дамо ні людзей, ні дамкоў.

Хай яны прытупяць свае когці,
Не ўпіваюцца імі ў парог,
Хай пачуюць што нам яны госьці,
Хай ня блытаюць болей парог.

Не пакінем так проста мы Волю!
Сваю Спадчыну не прададзім!
Не зламаць чужаніцамі гольля,
Не таптаць ні палёў, ні сьцяжын!

Нашы мары, разважлівасьць крокаў,
Лад разьмераны, блізкі, жыцьця,
Не падменім на Захаду вока,
Іхняй зброі ля межаў, плацьця.

**Пра пачуцьці**

Вядома, што расьліны увядаюць,
Як хмары мётламі зьмятаюць сонца,
Так і пачуцьці прападаюць
Увосень зь цемраю ў ваконца,

Павінна добра ўсё ўспрымацца,
Ўсе асаблівасьці прыроды.
Надвор’ю дадзена зьмяняцца,
Ня трэба ў ім шукаць прыгоды…

**Жыцьцё жыво па сабе…**

Дамы вакол - жывы валун,
Зямля – вагонь і лёд трымае,
Расьліны  - дышуць, бачаць сон,
Жывёлам рознам замінаем.

Займелі людзі плыньню ўсё,
Папера грошаў нам прырода,
Не цямім, што само жыцьцё,
Плянэты й Сонца асалода.

Яна паўсюль калі адзін,
Яна жыва ва ўсім у быце,
Сусьвету мае далячынь,
Чаму яе не палюбіці?

Калі мінеш ты розны жах

Пачнеш ты верыць у бязсьмерце…
Ды тут, што бачыш ты ў вачах,

Адчуць, зьмяніць павінен сэрцам.

## Матылёк

Яна бы лёгкі матылёк,

Красуня, дрыгае крыламі…

Баіцца толькі вугалёк,

Каб не спаліць іх у пыланьні…

Лятае ўсё у творчых снах,

Там піша пэндзалем карэньні,

Калі зьяўляецца ў вачах,

Тады я бачу мільгаценьні…

Сябруе ў цемры са сьвятлом,
Ды носіць срэбнае калье…
Вось і прыдумаў мавітон,
Бо кепска ведаю яе…

**Памкненьне**

Хопіць нечага баяцца,
Хопіць браць ваду у рот,
Хопіць са сваймі змагацца,
Бо усё наадварот.

Час зьмяніўся. Гэй вясёла
Беларусь мы славіць пойдзем,
Каб сустрэлася вясёлка
На нябёсах. Скажам годзе

Нашым жахам, нашай помсьце –
Мы раней інакш жылі.
Мы усе ў аднэя роце,
Мы народ які жывы.

**Павуцінка**

Аблачынка, як лягчынка,
Мне бы йму займець каханьне,
Я не здзейсьню перапынкі,
Там абудзіцца дыханьне,

Аблачынка прападзе,
Бо улюбіцца ў мяне,
Толькі неба ёсьць вялікім,
Не аблочка, - павуцінка.

## **Пра любоў…**

*Першы верш… (2007 – 2014)*

Любоў Праблёск Гушчароў.
Любоў – любові няўдалай глыток.
Любоў – улада вятрысак вятроў.
Любоў – дзе цьветачка любіць цьвяток.

І цьвецені дзеці дасягнуць любві,
І любасьць прачнецца любімых бацькоў,
І цьвісьце ніколі не ўбачыць крыві,
І цьвісьце ніколі ня вычыніць кроў.

## **Імправізацыя**

Бог зьвязаны з Зямлёй,
Як Сонца і Месяц,
У вадзе Зямлі Сусьветы

Кіруюць паэты

А гэта значыць Краін, - не Паэты…

Каханьне хвароба…

Але страціўшы яе,

Страцім

У Вадзе Сусьветы

Дзе жывуць “пахлешчэ” паэты…

У чалавекох…

**У кавярні “Порта”**

*Н.Ш.*

З’явілася ў задымленай кавярні,

Дзе сінія агні ды сьпевы чужаніц,

Раптоўна, бы дзіцяці “Барні”,
Мяне сабе хацела падарыць.

Кінапрадусаркай назвалася,
Прапанавала напісаць сцэнар…
Пакуль што гэта напісалася –
Не казка, не люстэрка мар.

Між розных непатрэбных словаў,
Патрэбнае ты вымавіла мне.
З упэўненасьці збыць аковы
Да дзеўчын, творчасьці ўдвайне.

І ведаеш, здалося што ты знала
Мяне чамусь зусім даўно.
Чаму ж мяне ты напаткала?
Ты запаліла у душы сьвятло.

**Як бы ён мовя…**

*Конану М.*

Мы з Дапамогай Краінам Вакол,
Мы Памагатыя Ўсім.
Хай толькі сьмее Амэрыка Кол,
Зьнішчыць Кувадлай Зусім

Хай Памяняюць Імёны Свае
Сьветлае Імя Маё.
Хай Дагараюць Сабакай у Тле
Мы Не Пакінем Сваё.

**Лянота**

Мая лянота створца вершаў,
І праяўляецца ва ўсім

Дзе трэба ехаць – мкнуся пешшу,
Дзе трэба лётаць – не вяршынь.

І нешта ляснула па мне,
Увесь настрой бліскоча ў іх,
Баран упёрты, і ў лайне,
Сярод чужых, сярод сваіх.

І што мне зараз падвярнецца,
Што чую я, аб тым пішу,
Мне трэба спын, суцішша сэрца,
Каханьне, праца, сонваччу.

**Свой ці вораг…**

Кім бы ні быў, свой ці вораг,
Ты цьвярозы, ці п’яны,
У жыцьці ці з маніторам,
Ты за словамі сачы.

Сам баец ня будзь паяцам,
Тое скажаш нешта больш,
Не таго інакшым мальцам,
Таямніцу краю горш.

Не размахвай баявымі
Кулакамі, як малец.
Тое станешся чужымі,
Не кажы наўпрост пра сьмерць

Чалавечнасьць не ёсьць іншай
У людзей, глупцоў, разумных.
З глузду з’ехаць гэта лішак,
Ці ў вясёлых, ці у сумных…

**Любі жыцьцё, шануй жыцьцё…**

Жыцьцё не доўгае, але,
Любі жыцьцё, шануй жыцьцё,
Якім бы ні быў твой алей,
Ён засыхае адкрыцьцём.

Надоўга просяцца, яны,
Густыя фарбы на халсьце,
І кожны ў кожнага – адны,
Які, захочаш, зацьвіце.

Мінай нявартасныя рухі,
Сваёй рукою, гэтай фарбай,
Мо больш прыемней класьці гукі…
Ці словам выказацца праўдай…

Любі жыцьцё, шануй жыцьцё,
Слабым, ці ўпэўненай хадой,
Хоць і падобна на ніцьцё…
Хоць і адказны сам сабой…

**Каласок і валашочак**

У валашочка люстэрка – нябёсы,
Там ён любуецца, цягнецца ў высі.
Колас ахоўвае сіні паросткі,
Кажа яму кім цяпер назавіся…

Толькі няведама кветку хто точа,
Ён супярэчыцца – непаслухмяны.
Вырвацца лётаць над полем ён хоча,
З птахамі пеўнымі ўсюль спазараньні…

## Радзіма

Радзіма – дзе веснія промні сьвятла,
Дзе чыстае мовы крыніца,
Матуля, дзе ў страўні гасьціннай жытла,
Гатуе, а тату ўся ежа згадзіцца.

Бабуля дзе стрэлася зь дзедам
На танцах мінуўшы вайну,
Вясельле дзе ў хаце адведаць
Змаглі пад запевы акну.

Далёкія продкі дзе грамаце сьледвалі,
Жыцьця, не гуляючы словамі,
Дзе думкі былі іх вышэйшымі, сьветлымі,
Прыроды зьвязаны пазовамі.

Дзе вырас у іншым я сьвеце,
Пісаць дзе пра гэта ня варта…
Калі запытаюцца – дзе вы жывеце?
Ніяк не патрэбна мне мапа…

**Пярун**

Калі нябёсаў быў б царом,
Ў зямлю хіснулася б маланка,
Раздаўся б вялізарны гром,
Я корань напісаў б пяром,
Бялёсай тушшу б, як паганка…

Мяне назвалі б Пяруном,

І ставілі б на даху збаўку,

Раздаўся б вялізарны гром,

Я корань напісаў б пяром,

Бялёсай тушшу б, як паганка…

**Песьня валошка**

Мілы Бог, я настолькі адзінка,

Што параніць мяне гэтак проста…

Дык пашлі мне хаця б павуцінку –

За яе я вазьмуся пялёсткам…

Дай сутоньне мне перацярпець,

Дай мне сну аддасьціся нанова,

Дай раскрыцца, сінюткай запець,

Ты пачуй маё шчырае слова…

**Вечар на лецішчы…**

Меньш прывітулькі сонейка дае,
Камар за вуха ўкуша,
Блакітным месяц паўстае,
Праз хвілю ноч зямлю заглуша…

Выдатна ў люціках баскіх,
Хоць ёсьць жучкі дурныя,
І салавейчык не заціх,
І мокнуць травачкі сухія…

**Лялька, чакаляд і малыш…**

Льецца вясёлай мэлёдыяй лялька,
Шэптам шпуляе у ціш малыша,
Лопне цярплівасьць калі чакалядка,
Шчокі усьмешкі узрушыць сьпярша,

Гралка палегне, малыш наталяцца,
Што ты не скажаш, пра што не змаўчыш,
Лепей салодкаму ліпка сьлюняцца,
Што ш, а ігрушачка – мыш.

**Бульбалы… Галоска повара…**

Мы Бульбалы,
Мы ў Бульбакраі,
Ўсім на сталы,
Люду па дранік.

Дранік жа смачны,
Тлусты дадзім,
З самавых Спадчын,
З самных Радзім…

Мужны, велькі родны Край,

Люд вакол здаровы хай…

**Касьмічны Вецер…**

Плянэта вітае Плянэту,

А Сонца іх знае Кругі.

Яно у цямрэчы Сусьвету,

Там Бога пануюць Рагі.

Трымаецца Сонейка крочччу,

З усімі Плянэтамі, Туль,

Дзе Вецер Цямрэчы захоча,

Спыніць існаванае Ўсюль.

Э

Жыцьцё і жывёльнасьць уладны,
Што Вецер нахопіць сказаць,
Зямля і астатнія Рады,
Што Богу ілгаць і праўдаць.

Зямельнае неба аднoе,
Зямля Сонцу трапная быць,
На Небе, як Сонца – Малое,
А ў Цемры на Вецер Служыць…

**Вечар у Вільні…**

У Вільні тата, ў Вільні маці.
Каля Званіцы Катэдральнага Сабору,
Увечар, пад фантанавы пляскацьці,
Мы елі смачныя наборы.

“ - Во смаката” – матуля кажа,
А тата: “ – Водар тут Эўропы…”,
А я хлябец алеем мажу
І мне да мора бы пустоты.

Выдатны цэнтар тонкіх вуліц,
Дамкі старэнькія зіхцяць.
Куру, дзе аніхто не курыць,
Ў гатэлі ночкі дзьве жыцьця…

**За дзякуй…**

Дзякуй, жыцьця перакул,
Дзякуй за дзякуй, прыйдзя,
Мабыць аддзячыў, крануў,
Дзе прывітаньне – падзяк…

**Сказы…**

Небу, небавы Палон,
Небу шмат Аблокаў мала,
Падуладнае на Бог,
Абы сонейка спаткала.

Блізка недзе там ля Зор,
Кожны кут і ёсьць Плянэта,
З вышыні украдкай Гор,
Ну Вада, ну травы Ветра.

Зоры зорамі гарацъ,
Іх Халера, Цьмота кіньце,
Кропцы небу патыхаць,
Сонцу. Зорам сказы: “Міньце…”

**Вучысь!**

Насуперак чужоце што віруе.
Вакол усіх вароньнем, вараб'ём.
Дзе тропы бойкія, чаруе.
Жыцьцё п'е выспамі нагбом.

Кранем, Народ начаставаўся.
Мы тыя, хто атместку надаем.
Паветру чорнаму да згасься.
Калі патрэбна Моцай закранем.

І будзе Мужнасьць Гонару, і Воля.
Пашанаю Сьвятла, дазнаемся Вяршынь.
Змагацца будзем за Сьвятое.
За нашу Спадчыну! За будучую Сінь!

**Казка каханьня…**

Прыдумаў я каханьня казку,
Яна прыгожая была,
У летуценьнях, у падказках,
Сабе самому дзейсьніў ласку
Паўсюль дзе ходзіла яна.

У марах паняй паўставала,
Але ж прыгожаю была,
Каханьне зноў запанавала,
Але й цяпер яно не мала,
І я пайшоў інакш сьвятла.

І можа хтось натрапіць сеці,
Такія як той я знайшоў…
Яго ня трэба біці пьлецьцю,
Яму бы лепей сьцішыць вецер
Каб абудзіўся і пайшоў

**Мо гук Маякоўскага…**

Ь

Л

У

Тебя давно

Уже нет

Немец?

Держи леденец

Перец

А наглец

Немец

Наглец немец.

**Гульня лацінкай…**

Y

Corny kryzh

I.    I

Z  al   ony         ,

S  viet

**Не куры…**

Закурыю той руцэ

Панадыхаць тытуньцэ,

Рыга роту – я адрыга,

Круга ручацца начцэ…

Загружыцца кампуцэ

Пэрым столям сыгарэціць

А сталамі сьпічкі сталі

Клава сталася нічцэм пачцэ...

*(мо ня мой…)*

**Паэтычныя цёркі…**

Паэта ціпа найсьвяцейшы
А По’эта ва ўсё унік
Паэт найкрашча залацейшы
Паэтку трогае б турнік.
А Паэтэсьсе даняло…
У ложку клюнуць бы на клык.
Эт – толькі хтосьці пад крыло
Дзе рэвалюцыя – парык.

**Як заўжды пра сябе…**

Няма ніякага каханьня
На гэтай сранае плянэце.
З сабою сам не у яднаньні,
Адданы цалкам цыгарэце.

Губляю час дарэмна я,
Непрофпрыгодная скаціна.
Саджуся часта на каня,
І не змагаюся з руцінай.

Сябрам сто год дзяўбу мазгі,
Баюся дзіка адзіноты.
Не бачу зерня з-за лузгі,
Музло – зацыкленыя ноты.

Ўсё пра сябе сьпяваць магу,
Бо не жывёліна, расьліна.
У рафмапьлёцтва, у тугу
Мяне ўсё цягне павуціньне…

**Голова «Говорит…»**

Мояковского стишочек
Хармса где-то два стишка…
А с тобою «атымётчик»,
Кулаками мотылька…

**Чэк…**

Мэндаляо
Фундуко
І саляо
Й сако

## Наконт аватараў…

Фотажаба, фотапомста,
Фота жадна, фота проста,

Так усё пасфатавалі,
Што і пьлёнку зьнітавалі…

## …Кому хватает…

Накурился до усрачки,
Поедом поел конфет,
Для тачки, -
Респект…

**Крэса… Мечак…**

За гарбатай спомні слоўнік,
Соль асадка, боль паперы,
Цукар звычна аркуш помнік,
Ты бяз кнігі слухаў веру…

Не зрабіўшы мечак сьвечцы,
Музыка хавае сьвечку
Ну зайграй, ну плавай рэчцы
Ну гары, ну пыхай мечку…

Пьлёнка слухаць бачыць флэшак
Запальніца дабы сьпічкі

## Словы

Коміксы – пьлей,

Бульба – патэль,

Сьперма – дуга,

Чрэва – ага,

Шыла – трава,

Сьлёзы – ікра,

Гума – фальга,

Грызьці – фата,

Казка – уфо,

Мапа – пьляфон,

Мэбля – паржаць,

Сплюнуць – душа,

Божа – трусы,

Рожа – часы,

Лупа – дыёд

Помнік – народ

**Паверыя**

Цар ня бачыў шпрыца,
А навукаю херылі…
Між гурком, халадца,
Вы па існасьці верылі.

Толькі той ідыёт,
Проста кнігі чытаў,
А той люта народ,
На магілы кідаў.

Дуракі мы зусім,
Што атруце даверылі,
Па пустэчах гразі,
Вымалёўваць паверыя…

**Пэ' дзіцячае…**

Хто пакрэсіў аперсіны?
Хто казаў кітам напьлюй?
Хто бы-нібы нэрпы сына,
Плаваў блізу караблю?

Як яечні, як патэльні,
Я іскруся, я гару,
Цыгарэтамі гатэлі
Тытунямі салу ну…

Акуляры акіяну,
Падымайцеся глядзець,
Дзе аблокі пакаваны,
Дзе пэнснэ каму адзець.

Праткі, хованкі, засада,
І лапаты, і акоп,
Міны полю, мухі градам,
І катлета, і укроп.

Пакруціце шар марозіў,
Кінь чыпсозіў рваць мяшок,
Сам язык сьлязу наводзіў,
Пасалёны зуб сладок.

Вільня – сокі, сьпірт надзіва,
Менск пабег на вадапой,
Сьвіслач, Мінску кракадзіла,
Зьмей, Нямізе віцца той.

Котка, Кот Мэтро Сьмятана,
Так вядро куды ты той?
Паляжы ля ліхтара на
Асьвятлі ноч зіватой…

Там кругі намаляваны,
Там магілы, крыж, ато ж,
О каму наканавана!..
Пад кітай і пад япош…

*(Пён Абсіжын)*

**Выкарышваць**

Что нет што ня ні не
Кубік хлеба нісем
Нес нісем на нісеніе

**Вам…**

Вам посвещаю я, близкие люди,
Эти слова да и строчки свои,
Пусть как ни как а хорошее будет,
Пусть не придётся вам жызьни творить.

Эти стихи пускай сердце согреют,
Может и лишнее что то сказал,
Кто-нибудь скажет што стиль устарелый,
Всё таки прошлое только и знал.

Долго отспаривать, даже и биться
Можно про то как и что кем писать,
Мне же на мысли: что тот кто боиться,
Тот и не сможет сам правду сказать.

Лучшего всякого, здравия, радости,
Я как могу вам хочу пожелать,
Мысли не путайте гордостью старости,
И не отвильвайте, знать, роботать…

**Пра ровар**

Птушка, птушка, лісапэд,
Кола, кола, дармаед,
Сьпіца, сьпіца, калесо,
Сяду? – Сяду! – Халасо!

Пад сядухай, бяз спружынаў,
Фара мігае палыннам,
Палячу ўпярод, кампутар,
Зарулюю шары Эў’квутар,
Там сыпучасьць ё гадзіньнік,
Лічба стрэліць на фатціньнік,
Там сьвяці, сьвяці сьвятло,
Лупай лупіцца зямло,
Ёсьць грыховыя трохкусьці,
Хтось падпільнвуе пэ вусьці,
Рэку рэкам, Ільле ілю,
Крылы, крылу, ногі, ныгу,
Хымік, хыміць галаву…

## Коўры

Карнэплёд купьляеш – здачы!
Карнэплёд набудзеш – зьлегчы!
Лук зялёны як доляр,
Лукі зеляцца даляр,
Доляр, дольляры, даляры,
А пуесьці пусто ўё
Е ні е, ня ем, паем…
- Долу доляры дзяло…

## Яблыня й бяроза

Яблык яблыні, бяроза.
Тая таіць, ты плачы “ш…”
Зоя – зонізу заноза,
Холад, лёды, гарачы “щ…”

## “Экспэрт”

“Экспэрт” дзе цэрква і палаты,
Дзе хаты полю, дзе завязкі,
Дзе прэміі зграшаць гарантам,
Каб казкі сталі для адмаскі,

Каб Трактар не шукаў УАЗ,
Каб дрэвы гэтак ж вар’яцелі,
Бліз люду сцанага пасьцелю,
Дзе хлеб калёны скрышыў нас,

Каб ціску знаць паміж кружляньня,
Каб высцануць бліз вод сраньнё,
Каб “Дуня” чуўшы аддаляньня,
Крый пісуар час змыла у сяло,

Бы ведаючы правіла пярчаткі,
Ці кахкі з анатоміяй наўгуль,
Спрацуючы міжмоўнае здагадкі,
Пайшла па-за прыступкамі за руль,

Мець старт на бачлівыя знакі,
Ды на прыпынкі сколаў ці трубы,
Кватэрай з'есьці чакалядкі,
А ў час за кавай піць яды…

**Нафта**

Нафта, нафта, скок у лес!
Шалі важаць вес!
Сосны, елкі, грэхі,
Дуб, бяроз, гарэхі..

**Гнеў гародніка “завершыўся”…**

Чаму пахмурныя, нябёсы?
Надвор’е ж абяцалі добрым…
Нашто дажджом спусьцілі косы
І паліваеце так шчодра?

Ага! Нахлусіла яно!
Во добра! Не пайшлі на зман…
Вы гледзіце… Мы о-го-го…
Калі пачнеце змоўчваць нам…

**Дзяўчына нібы дзіч…**

Дзіка-дзікая – дзяўчынка мары,
Хлусіць не павінна, а ўсьміхацца.

Сумная, з валосьсем кучаравым -
Сам хачу “хоць трэсьні” разабрацца.

Ў адзіноце кепскага няма –
Сьцяміў у апошнія я дні,
З’еўшы многа featuresрознага дзярма
Ад сваіх пачуцьцяў, дабрыні.

Ўсё ж мужык заўжды халаднакроўны,
Я ж напэўна толькі цень яго.
Трэба засяродзіцца галоўным,
Плыць да толькі блізкіх берагоў…

## Цьвяток

Цьвяток узрос
Дуроце годзе
Ён з тых палёс
Што на Свабодзе

Ня будзе кос
Ня будзе звадзьдзя
Прыедзе воз
Дасьцё йму вадзьдзя

## Тэхналёгіі

Ці карэта ці мяшок
Трохкалёсны ці з двух колаў
2d множык 3d жом
Прынт CD ці LP прэсс

Пьлёнкассэты відэон

Па балгарску ўся піла

Гумацяжнік ці матор

Электроніка гадзіньнік

Пошук трэка змотка пьлёнак

Дзе мэтро катамі цар

Акуляры галаварыць

Матылькі у жываце…

І ўябаў Чырнобыль ўёбкам

Упісаў чужан зуёнкам

На! - навошта,

Нэ! – ныцьце.

## У бары

Не мяшай гарэлку з сокам,
Сок бярозавы – бяроз,
Не мяшай у віскі коку,
Бо ўжо яблык папірос…

Газік зьгіне, кава зстыне,
Чаю чарка что бычок,
Попел попельніцу згіне
Праз напой заварку чмок…

## Роджы…

Дзеці зь дзіцем роджуць дзіце,
Гора дзецкае нашкодзіць,
Так нашкодзіць, што ійдзіце,
Родзіць, родзіць, дзеце, родзіць,

Гора дзецкае не гора,
Гора горава дзяцей,
То у краме на прасторы,
То ў мэтро, як для дзяцей…

**Кропка настрою .**

Зцаглянім дом уздоўж рачулкі,
Сьпляцём лапцё на траў ніцьцё,
І стануць “лёсы…” гібкі, гулкі,
Наўчора зьведаць забыцьцё.

**Пра цьвікі…**

Гвыты – гавары гаворкі –
Горка гроб губіў гальлё…
Гваты - гавары падгонкі, -
Гіру гнуў гаршку гнільлё…

**Гвыт** – шмат цьвікоў у роце

**Гват** – адзін апошняе цьвік на стукнік (стучнік)

**Калісьці выкладчыкам… На парах…**

Я прапітаўся ўвесь дызайнам,
Нібыта гумачка вадою,
І мне усё ж ніяк не файна
Прафэсароў чуць з барадою.

Ў сярэдзіне таго стагодзьдзя
Дызайн быў рэндавым, класічным,
Рабілася ўсё на заводзе,
Было шыкоўным і практычным.

Этап апошні мадэрнізма
Тады ў сусьвеце панаваў.
Цік, Дорвін, Дрэйфус, Імз –
Лёс геніямі іх назваў.

Пішу адказ я на пытаньне.
Напэўна люта памыліўся.
Прашу малога пакараньня.
Эсэ я напісаць забыўся.

## Ежа наша…

Паесьці можна і вяліка,
Ды толькі меру знаць, падлікі,
А то раздашся назаўжды,
Нікшто й ня скрышыць лабуды…

## Малевіч і Йкона

Малевіч і Йкона – нязлітныя словы,
Але ён прадвесьнікам быў…
Пачуў ён плямёны, пачуў ён граховы
Народу жыцьцю супраціў

Ён вугальчык наш, ён кінуты ў фарш,
Але як нікому на сьвеце,
Мы йму абавязаны йсьці як на марш –
Укласьці прыгожае квецьце…

**Паказоньчык**

Так хочацца прыдумаць верш,
Але камусьці будзе шкодны,
Вазьмеш яго складзеш,
А ён нібы народны…

Душу камусь абудзе,
Камусьці створыць зло,
Камусьці створыць студзень
Камусьці хараство…

**“Ь”**

Вось якую мілу песьню,
Я пішу табе, дружбак.
Каб ты правапіс уесьніў,
Каб успомьніў
Мякькі знак.

Пакапацца трэба ў мове,
Паступова,
Бы лячэньне,
Жахі зьнікнуць у галове,
Панаблізіцца к цячэньню…

Потым сьмела,
Самастойна
Ў розных плынях ужываць,
Выкладаць яго спакойна
Каб другім перадаваць…

**У Адпачынку…**

Вяцёрка гуляе, ды зноў наганяе
Прыемныя думкі, на Нераньзе я.
Паблізу заліва, стучыць не тужліва,
Сардэчка маё, з татам разам хадзя.

Удвух разважаем, пра тое што маем,
Пра тое што мовім, пра тое што тоім,
Чаго не зхапае, чаго дастаткова,
Але мы сыйшліся, што родна жыткова…

Падмурак наш крэпкі, пачаў даваць кветкі
Што крокі на ўпэўна, не скокі дарэмна,
Што плачу забыцца, а ведам набыцца,
Разважна на гору па-ціху-па-скору…

**1 верасьня**

Вось і першы дзень вучобы
Ўзяў не так далёка старт.
Пяты курс застаўся штобы
Атрымаць дыплём і штамп.

Засталося не так многа,
Давучыцца і ісьці,
Моцна стаць на сваеногі,
Здаўшы ўсе свае хвасты.

На апошніх дысцыпьлінах,
Не зяваць, падслухаць ведаў.
Потым у жыцьці далінах,
Йны знайдуць сваю патрэбу…

**Зяґюґя**

Абюзьбемьдзіў Зяґюґя сьпякюсьцьвы,
Не пайшоў да Зязюзі у ложак,
А яна абяцалка што пусьціць,
Да сваіх далекатнейшых ножак,

Да сваіх найшурпацейшых ножак,
Рок Зяґюґя Зязюзю чакаў.
Сам сабескі ён зараз і можа,
Бо знайшла багацей дзівака…

**Тудэмя-сюдэмя…**

**1**

Як звыцкі быць

Сярод звычайніцкіх людзёў,

Быць сьметанковым маслам,
Дзеля шэрага батона,

Ці проста я вышэзна сябе стаўлю?

Хачу мець самадайку,

Зь лепшага прытона,

Калі пашэньціць, стане жонкай,

І ў мокрым ложку із кардона,

Ваткну ёй нож у селязёнку,

За тое што зьмяняе стала,

Як выясьнілася, з марґіналам…

**2**

Як жудча існаваць,

Калі вар’яты побач,

Жыцьмеш цьвярэзьнікам,

Бяз таннай самагонкі.

Хто даў ім права выстаўляцца?

Хачу дажыць спакойна,

А тусь нейкія падонкі,

Зьмяніць уладу хочуць раптам!

Міліцыя, бяз сарціроўкі,

Растрэльвайце, альбо за краты!

Хай там шукаюць апанэнта,

На зьмену лепшага прызэнта…

*2010*

**Нине…**

Девочка-мальчик,

Порезала пальчик,

Но ей не больно,

Зарплатой довольна,

Крутится, вертится,

В мире искусства,

Встретится, встретится,

От шедевров капуста,

Работа по вкусу,

Босс не укусит,

Вот и стишок,

Написался строшок…

**Сьцёб першы**

Сшытак, ранец,

Прыватны танец,

За рублі матулі,

Позывы адтулін…

## Сьцёб другі

Першы ананізм,
Чэлез невялізны,
Фарбы для ізо,
Соплі і мазок…

## Сьцёб трэці

Кажа штось выкладчык,
У смартфоне бачу,
Нешта я па норме,
Дома ўсяка порна…

## Сьнег…

Сьнег да долу льецца сьведкам
Іншых мейсцаў на зямлі,
Бы зялёная сурвэтка,
Выцірае дрэнь зь зямлі.

Ён напой які напоіць
Розных зёлак карані,
Раны роспачы загоіць.
І тваіх і дзе сябры…

## Хаос…

Жыцьцё, заўсёды празнае, жыцьцё,
Але ва ўсім цяперака хаос…
Пішы, паэт, пра золата нябёс,
Пішы, узгадвай забыцьцё.

Ніякі не апошні ты паэт,

Табе разгадваць зарагляды…

Зямля чакае ўсё парады

Там дзе віруецца Сусьвет.

**У маладосьці дзіваком…**

Дзе нарадзіўся, там – радзільня.

З садка дзіцячага стаў люд прымаць.

Дзе школа – розум абудзілі.

Дзе ВНУ – на хлеб вучыўся зарабляць.

Раён – мая гулянак плошча…

На піва грошы ад бацькоў…

Завуся тым, хто мае што захоча,

Апёка – ад усіх бакоў.

Патрэбна самастойна працаваць…
Дурноту кінуць… Маляваць дыпьлём…
Ды рвецца сэрца пабываць
У маладосьці дзіваком…

**Прышпільныя плямкі…**

Марозіва – ужо старое слова,
Яно пашырана ў дзяцінстве.
Чыпсозіва – для рта бы дровы,
Пад піва падыходзіць у адзінстве.

Дзяцінства пераходзіць у юнацтва,
Ужо салодкае паменей прэ.
Салёнае заўжды было багацьцем,
Нат’ голуб гарадскі жарэ…

**На памяць…**

*Р. Барадуліну…*

Паэта вялікі, народны,
Вы сваёй Беларусі душа,
Радок ваш жывучы і годны,
Хоць развучаны мовіць, чытаць.

Ніколі мы вас не забудзем,
Як ніяк не пакінем мы край,
Жаданьні ўсе вашы адбудзем,
Хоць сышлі вы далёк небакрай.

## Настаўленьне…

Хоць па крыві, рэлігіі, па роздумам,
Мы не падобныя у чымсь на вас,
Усім палеглым за мяжой народам там,
Заклікну – калі ласка, знайце нас!

Не ўцягвайце у полымя дурных падзей:
Вайну, тэракты, бітвы, ліхадзейства…
Свайго мы шмат чаго згубілі і надзей
Узьняцца нашаму цяпер – маленства.

## Неба над краем…

Кожны змагаецца сам са сваім,
Кожны з краінай у сэрцы жыве,
Нехта нясе, нехта змоўк назусім,
Нехта пра гэта раве.

Можа напраўдзе так яно й трэба,

Кожны належыць свайму меркаваньню…

Толькі нашто падзяляць тое неба?

Богу у ім панаваньне…

**Брыд… Параноя… Прыдумовасьць…**

Дзе цяжка цяжка дыхаць мне ад дыму,
Дзе сьпіртам гаснуцца трывогі,

Там мары месьцяцца уздыму,

Пачуцьцяў, волі, перамогі,

Мне сорамна казаць пра гэта…

Дзе не сапраўдная заможнасьць,

Там шчасьце простага паэта:

Брыд… Параноя… Прыдумовасьць…

## Хістаньні ў людзях

Вось чалавек зямлі сваёй,
А той захопьнік, раб нябёсаў…
Жыве жывінай каранёў,
Другі галактыкамі лёсам.

Нармальны першы звычны бо,
Другі вар'ят, бо поруч зь ветрам…
Калі прыдурка панямо,
Адхінем вартае мы рэтра…

Так і лятае ён свой век,
Як храм які крыжоў не мае…
А той, папросту, ад патрэб,
Ад сьмеху, працы памірае…

**Усо**

Усё ад натхненьня далося,
Іскра праскачыла ад высяў.
Усё каб лягчэй нам жылося,
Каб Шчасьце і Сьвет не зьвяліся.

**Ў разьвіцьцё б…**

Хутчэй памкнуцца ў разьвіцьцё б,
Хутчэй бясконца б разьвівацца!
Яно кароткае жыцьцё…
Самім сабою заставацца.

Не лянавацца, працаваць,
Трымаць свае ва ўладзе сілы,
Пазбыцца нешта неяк знаць,
А ведаць важныя ухілы.

Псаваць былое аніяк,
Рабіць усё каб паважалі,
Прыбраць не вартае “юнак”,
Пустыя зьнікнуць разважаньні…

**На вайсковую тэматыку…**

Можа мы наіўны,
Толькі пасьлядоўны!
Ведаем навіны,
Ворага пагоны!

Гібкі да запугаў!
З пьсіхікай устойнай!
Мужнаю напругай
Будзем Край адстойваць!

Кінуць бы дурное,
Толькі, як за Волю,
Вогненнай гарою,
Абарону ўзброім!

Мы за Незалежнасьць
Мірнага мяча!
Будзе што належыць
Катам, палачам!

Беларусь мы любім,
Дзе спакой і ціш!
Мы яе ня згубім!
Знай, абараніш!

**Кніга…**

Якая кніга ёсьць люстэрка
Усіх астатніх знаных кніг?
Яны бы лісьцем па-на Дрэўку,
Яна ж галінкамі да іх.

Завецца Бібліяю мо’?
З Яе жыва літаратура…
Пасланьне Божае дано,
А мы жывем макулатурай…

**Крыж…**

Асоба заўсёды жыве пад наглядам
Бацькоўскім сяродкам і знаных сваіх…
Таксама й найважных асоб, люду ўлады.
Да іх іерархія й месца да іх.

Ня трэба змагацца, стучаць па мэтале,
Са сьмецьцем мяшаці усіх, аднаго…
Жыві знай цьвяроза сваімі мазґамі,
Ідзі лепш туды дзе аддаш ты сьвятло.

Спадзеў май на лепшае, станься, спрацуй,
Ніяк не руйнуючы нечага інш.
Свой талент прыродны пазнаўшы мацуй,
Свой кошт жыцьця знаючы, крыж.

**Ґець!**

Я хутчэя назіральнік,
Чым дзялец, ратай,
Трэба кнут узбуджкай, пранік,
Трэба і вада.

